Менску да Вільні цягнікі не хадзілі. Я даведауся ад яго, што ен мае права разьезджаць увесь час па усей тэрыторыі „Усходняй Зямлі“. Зайздрасьць узяла мяне і боль агарнула, што ніхто з беларускіх дзеячоу, навет самых умеркаваных, ня можа дастаць такога пропуску, а павінен кожны раз па цэлым дням дамагацца пропуску. Пан організатар пацешыу мяне, што не пазьней, як праз 10 гадоу Беларусь будзе незалежнай. Але у мяне зьявілося сумленьне, як гэта бяз працы беларускага інтэлігэнта, гэтай косьці і мяса ад свайго народу, можа мець мейсцо „незалежнасьць Беларусі“.

Я зацікавіуся, на якой аснове захадніе паветы Гродзеншчыны далучаны да Польшчы і вось што я даведауся. Бельскі, Беластоцкі і Сакольскі паветы былі „каронные землі“ і, як такіе, на аснове гістарычнага факту, яны далучаліся да каралеуства. Плебісцыт тут не меу рашаючага значэньня.

Я зьвярнуу увагу майго размоуцы на артыкул чэха Сіза, надрукованы у „Газэце Польскай“ і запытау, чаму за такі малы кавалачак зямлі, як Сьлёнск Цэшынскі, вядзецца спрэчка паміж братнімі народамі. Тут выявілося, што чэхі маюць гістарычные правы на Сьленск Ц., што гэта каронная чэшская зямля, але яна патрэбна Польшчы, як вельмі багатая вуглем. Што тычыцца народу, то тут прамысловец жыд, альбо немец, тэхнік чэх і рабочы паляк. Варункі гістарычные і нацыянальные сусім аналёгічные, як для Сьленску Ц., так і для захадняй Гродзеншчыны.

Калі на аснове гістарычнага факту беларускіе паветы далучаны да Польшчы, дык на той-жа аснове Сьлёнск Ц. павінен быць адданы чэхам. Калі-ж на аснове нацыянальнай Сьленск Ц. павінен быць далучаны да Польшчы, дык на той-жа аснове паветы Гродзеншчыны мусяць астацца пры Беларусі.

У.

*(Працяг будзе)*

## Настауніцкі інстытут у Менску.

Яшчэ пры цару адчынены быу настауніцкі інстытут у Менску. Гэтакая самая расійская вучэльня была яшчэ у Вільні. Прымаліся туды людзі з вялікім выбарам, і хто пападау у інстытут, той лічыу сябе шчасьліуцам. Інстытуты на Беларусі былі вышэйшай навуковай установай, аб якой марылі дзеці нашага сялянства, каторым пашанцавало скончыць настауніцкую сэмінарыю і „выбіцца у людзі“. Гэта была хітрая, шатанская павуціна, сплеценая расійцамі на Беларусі, на каторую ляцелі дзеці нашага сялянства, як машкара на агонь, і гінулі там навекі. Калі настауніцкіе сэмінарыі у Маладэчыне, Нясьвіжы, Панявежы і Сьвіслачы не патраплялі вытруціць дашчэнту жывых пачуцьцяу у нышчасных дзяцей нашых сялян, то настауніцкіе інстытуты у Вільні, Менску і Глухаве на Чарнігаушчыне даканчалі іх страшную работу па забойству людзкай душы. Адгэтуль выходзілі самые тупые, самые дзікіе, самые упартые ворагі свайго роднага, беларускага, каторые *літэральна выракаліся сваіх бацькоу*, калі трэ было прызнаць іх пры людзях. На гэта маецца ні адзін і ні два, *а цэлые соткі прыкладау*. Яны літэральна ня пушчалі к сабе на кватэру сваіх бацькоу тольк' затым, што тые ня умелі сябе трымаць і гаварыць па-панску,— гэта знача па-расійску. Такога зьяуленьня, пароджанага здрадніцтвам і рэнегатствам, ня ведае можа ніводзін народ на сьвеце.

З сэмінарыі выходзілі (посьле чатырох год навукі, сталых, здаровых сялянскіх хлопцау) людзі неразьбітные, малаграматные і зусім някультурные. Яны калі і выракаліся свае мовы і свайго народу, то рабілі гэта затым, што так сказалі ім настаунікі, а яны паверылі ім на слово, бо іх вучылі верыць свайму начальству. Гэта былі проста нящчасные, цемные, скалечаные людзі, каторые шчыра верылі,

---

# Адзін дзень у арміі „Зяленага Дуба“.

### Варта.

Ціха, ціха кругом, толькі дзе-ня—дзе зашуміць вецер паміж галін дрэвау ды зноу ціха, як у магіле.

Уецца грэбля скрозь гушчарню Палесся, паузе, як гадзюка, і гіне гдзесь сярод частага грабняку. Здаецца, што гэта дарога зроблена не для жывых людзей, бо нікога на ей ня відаць.

А ці-ж гэта так? Не, вось у цяні галін едлы стаіць чалавек з вінтоукаю за плячыма і пільна глядзіць у канец грэблі, гдзе тая гіне з вачэй у гушчарні лесу.

Хто гэты чалавек? Хто яго тутака паставіу, каго ен пільнуе? Ці можа гэта разбойнік вышау на дарогу, каб забіць каго? Ці можа паляунічы жджэ дзіка, каб меткай куляй зваліць яго? Не, усе гэта ня так. Паставіла гэтага чалавека тут, сярод грэблі, нядоля, уклад усяго нашага цяперашняга жыцьця.

Прыгледзьцеся добра у яго малады твар! Ці не пазнаеце у ем таго, каго гоніць жыцьце у лес ад людзкай няпрауды? Ен моцна сьціснуу вінтоуку рукамі і плача душою ад горкай крыуды. Моцна бьецца сэрцо у грудзях... Ня ведама толькі, ці доуга? Няхай хоць гадзінку, абы яно білося за прауду, за родны край!

А вецер ціха калыша галіны едлы, а тые, як шырокіе лапы сьмерці, прыгарнулі да сябе гэтага маладога байца за сваю Бацькаушчыну. Вось гдзесь далека загрукау нечы конь па бярвеньнях грэблі, і грук яго капытоу пашоу па лесе. Вось усе бліжай і бліжай, вось і вырас усаднік на белым каню. Упіуся у яго вачыма чалавек з вінтоукай пад елкай, і ціхая радасьць засьвяцілася у яго вачох. Свой! Вось ужо добра відаць малады твар і шапку, а на ей тры дубовых лісткі, а за поясам заткнуты „маузэр“. Вось ен стрымау каня, і моцны гвізд завыу па лесе.

Гві, гві, гві! —адазвауся маладою вуткай чалавек с-пад елкі, і усаднік пагнау каня, і яшчэ хвіля і—ен пад'ехау да елкі.

— Ну, Семка, здароу!—сказау ен, злазячы з каня

— Нічога, добра. Звадзі барджэй каня з грэблі!

Усаднік зьвеу каня з грэблі, прывязау да маладой асінкі і падышоу да вартауніка.

— Ну, здароу яшчэ раз, Семка!—

І два чалавекі абняліся, як браты, і моцна пацалаваліся.

— Ну, вось я і дома! А гдзе стан?—спытау усаднік.—Трэба хутчэй бегчы ды сказаць, што „башлыкі“ хочуць іці на нас аблавай.—

— Ці - ж?

— Але, браток, —можа нават заутра.

— Вось як!—сказау Семка.

Усаднік адвязау каня і чуць прыкметнай сьцежкай пашыуся у гушчарню лесу. А Семка астауся ізноу на сваім месцы пад ценям ялінкі. Ізноу глядзіць у канец грэблі і чакае...

### У стане.

Прайшоушы шагоу трыста, усаднік пачуу галасы гамонячых людзей і хутка вышау на палянку. На ей, па розных кутках, сядзело і стаяло чалавек каля дзесяці аружаных людзей. Пасярэдзіне на трох калох, на тоустым дроце, вісеу вялікі чыгун, а у ем булькауся крупень. Тутака-ж адзін малады хлапец сек сякерай шакалі, другі падкідау іх у вагонь, а трэці рэзау сало, смачна аблізваючыся. Усаднік аглядзеу усю палянку быстрым вокам, зьняу з каня сядло, павесіу яго на сук і зьняушы вобруць, пусьціу каня на траву, а сам пакіравауся к найбольшай грудзе людзей, адкуль ішоу найбольшы гоман.

— Ці здаровы, сябры, як маецеся?—зычным голасам гукнуу ен да іх. Колькі галоу азірнулося, і хутка падняуся цэлы гвалт галасоу.

— А, Дзяргач, здароу! Як, што чуваць? Гдзе бальшавікі?

што беларусы—гэта папсованые палякамі маскалі, расійцы. Гэтак ім казалі настаунікі і такі погляд праводзіуся па усіх тых сэмінарскіх падручніках, якімі праз чатыры годы атручвалі іх здаровы вясковы розум. Але інстытуты выпускалі ужо сьвядомых рэнегатау і адшчапенцау, каторые часта ня проч былі апраудаць свае адступніцтво прад людзьмі „навукова“. Гэта ужо былі людзі навекі мертвые для беларускага народу і нявымоуна шкодные для беларускай справы сваім „вучоным выглядам“ у ваччу простага народу. Гэта была ужо тая зараза, каторую раскідау расійскі урад па усей Беларусі...

Вайна і рэвалюцыя раскідала віленскі інстытут,—пра яго ня чуваць. Ен трапіу туды, дзе яму і трэба быць. Але яшчэ адзін разсаднік маскоускай заразы на Беларусі—менскі інститут—не распарушыуся, як-бы гэта належыло трухляваму, спарахнеламу дрэву. Ен ухітрыуся прысмактацца да беларускага руху, і гэта дало яму магчымасьць дацэгапь да нашых дзен. Цяпер пільней ен захадзіуся кале беларушчыны і навет адважыуся прасіць беларусау, каб яны узялі гэту чужедную расьліну пад сваю апеку і утрыманьне! Ен, бачыце, ахвотна служыу - бы беларускай справе, але ня можа: *язык яму маскоускіе цяляты аджавалі!*..

А ці ня хітрыкі гэта расійскіх прыслужнікау? Як жа ен бярэцца быць *настаунікам настаунікау*, калі ня можа выпауніць сваго першага заданьня: быць слугою таго народу, каторы яго корміць? Як-жа ен можа рахаваць на дапамогу таго народу, каторым ен пагарджау і пагарджае, мовы і культуры каторага ен ня ведае і ведаць ня хоча? Тлумачэньне тут адно: калі трывога, то і да Бога...

Каб працаваць для народу у яго беларускай справе, дык трэба толькі *захацець*. А калі менскі настауніцкі інститут *ня хоча*, то якаяж можа быць з ім гутарка?!

**Я. Ксяневіч.**

# Маленькі фэльетон.

## „Антыхрыст“.

(Абразок з натуры).

— Як гэта ен адважыуся гэтак зрабіць, малакасос, паганец! Пры чым-жа мы астанемся? Хлеб у нас забралі, сыноу забралі, а цяпер яшчэ і Бога нашага забіраюць у нас.

Гэта крычалі старыкі і кабеты каля школы, дзе настаунік выкінуу сьвятые абразы і прыказау дзецям Богу не маліцца.

Не фанатызм, а вялікая крыуда аграбленых людзей бліщчэла у іх вачох.

— За што гэткіе зьдзекі над намі?

Кулакі былі у іх сьціснуты. Яны гатовы былі на усе, каб адбараніць свае права маліцца Богу.

Настаунік выйшау на ганак супакоіць народ:

Таварышы! Гэта я зрабіу вам на карысьць. Гэта вы Богу паншчыну служылі дагэтуль. Бог абаронца буржуяу і духавенства, каторыя вас абдзіраюць да апошняй капейкі.

— А цяпер вы яшчэ спрытней тых абдзіраеце нас да апошняй капейкі!—грымнула грамада.

— Не патрэбны нам прымусы Богу маліцца, вон абразы са школы!—крыкнуу настаунік.

— А прымусы сьпяваць марсэльезу у школе трэба? А замест абразоу сьвятых, партрэты Леніна і Троцкага павінны вісець?—занепакоіуся народ.—Замест хрысьціянскага Бога, вы нам нейкіх антыхрыстау тыкаеце! Вон, лайдацюга, малакасос з нашай школы!! Школа на нашые грошы будавалася—мы тут гаспадары!

Грамада буйнай хваляй налезла на вучыцеля. Ен троху пабэкаупамэкау на Бога і змоук, бо старые бабы замкнулі яму рот сваімі кулакамі...

Потым настаунік яшчэ крычау, але ужо не ад праціунасьці к Богу, а проста ад болі—старые кабеты вельмі спрытна церлі яму косьці.

---

І людзі абступілі прыбыушага чалавека.

— Ціха, ціха!—замахау ен на іх рукамі —Закаркалі, як крумкачы! Чаго добрага, і Лейбу Троцкага збудзіце у Маскве гэтакім гвалтам... А гдзе-ж Піліп? А вось ен! Ну, здароу! Здаровы і вы усе, сябры!—сказау ен, пацалаваушыся з Піліпам.

— Ну, ну, добра! Кажы, кажы, што чуу, гдзе быу?—загаманілі ізноу наукол яго.

— Але ж ціха, ціха, каб вас цямцюр!—замахау на іх рукою Дзяргач.—Усе скажу.

Усе сьціхлі.

— Ну, вось, сябры, я прышоу да вас сказаць, што бальшавікі ідуць на нас па двух шляхох. Адзін атрад ідзе па Пятракоускаму шляху, другі па Бабруйскаму. Яны ужо каля Дзяковіч. Мы ужо аб гэтым далі знаць і у галоуны наш штаб „Качай балото“. Вось і усе навіны! А цяпер, паны старшыны, пойдзем пагамонім гдзе у баку аб усіх справах, як спаткаць нашых ворагау,—скончыу ен, і людзі разступіліся, даючы дарогу яму і Піліпу.

Падышоушы да сьсечанага дуба, яны селі на яго. Зараз да іх падышлі яшчэ тры чалавекі. Гэта былі старшыны: капітан Морау, паручнік Шадрау і Воран. Доуга гаманілі яны меж сабою, а посьле узьлез Воран на пень і клікнуу: „Гэй сябры, сюды!“ Са усіх канцоу зьбегліся людзі і абкружылі зваленны дуб і пень стаяушага на ем бяз шапкі Ворана.

— Браты мае родные! Час барацьбы прабіу, Вораг ідзе на нас, каб адабраць у нас волю, каб забіць у нас дух нацыянальнага адраджэньня. Браты, чы сьцерпім мы гэта, чы сможам маучаць? Не! Кожны з нас ведае, чаму мы тут, сярод лясоу; чаму у руках моцна мы трымаем стрэльбы і за якое жыцьце мы бьемся. Так няхай-жа наш вораг спаткае с-пад кожнага пня і куста кулю і моцны прадсьмертны клік кожнага паушага байца: „Хай жыве Вольная Беларусь!“.

— Хай жыве!—гукнулі людзі усе у вадзін голас, і яліна далека, далека панесла гэты клік.

— А цяпер, паны дзесятнікі, хай людзі палуднуюць і адпачываюць. Бог адзін ведае, што заутра будзе, сказау Воран і зскочыу з пня.

— Ну, дык бывайце здаровы!—сказау Дзяргач, устаушы з дуба.—Трэба ехаць у свой стан.

— Троху стрывай, папалуднуеш з намі, тагды і паедзеш,—адказау Воран.—Вось ужо і нам нясуць крупень.

Малады хлопец паставіу міску з крупеняю на пень і адышоуся.

— Ну, бяры, браце, лыжку і прашу чым Бог паслау!—сказау ен, зьнімаючы шапку.

Старшыны абступілі пень з міскаю і пачалі есьці.

Усюды сьціхла гутарка, толькі і было чуваць бразганьне лыжак аб міскі ды хурканьне коняу. Усе елі,—хто ведае?—можа астатні раз...

— Ну, дзякую, бывайце здаровы!—сказау Дзяргач, абняушыся з старшынамі, і пашоу да свайго каня. Асядлаушы, ен азірнууся і гукнуу да усіх:

— Шчасьліва, сябры, біцца! Бывайце здаровы! Барані вас, Божа!

— Дзякуй, бывай здароу!—загулі людзі, махаючы, хто лыжкай, хто кавалкам хлеба, а хто і шаблюгай.

Дзяргач узяу каня за повад і пайшоу вядомай сьцежкай на грэблю. За імі ішоу малады зеленадубец зьмянаць Семку з варты. Вось ужо і елка, а пад ею верны вартаунік.

— Ну, бывай, Семка, здароу! Хавай цябе Маці Божа!—абняу яго Дзяргач.—Глядзеце-ж, ня пускайце ворага тутака! Няхай ен згіне і ня увойдзе праз гэтую браму да Палесься!—сказау Дзяргач, вывеушы каня на грэблю.

— Ну, бывайце здаровы!—крыкнуу ен, сеушы на каня, і паехау.

— Шчасьлівы пуць!—сказау Семка і пайшоу у стан, пакінуушы на сваім месцы свайго сябра.

**В. Адамовіч.**

*(Канец будзе).*

Прайшло колькі дзен, а настауніка і сьлед прастыу—уцекад сораму.

А у ваколіцы разнясьліся чуткі, нібы гэта быу сам антыхрыст, прысланы дыябалам муціць вясковых людзей:

Адна старая бабуля сваімі вачыма угледзіла у настауніка рогі і хвост, угледзіла, як ен апоуначы у пекло паляцеу.

„Гэта быу антыхрыст, ліхо на яго!“. **З. Бядуля.**

## ВОСЕНЬ.

Села пад пушчаю Восень,
Вочы утаропіушы у даль,
Жаль ей павяушых дакосін,
Сьпетых дажынак ей жаль.

Пацеры шчыра шапэча,
Нудную шэпча мальбу;
Творыць паціху у ночы
Сьвету сваю варажбу.

Склікала вецер і хмары
Кожнаму дзело дала:
Вецер завыу на папары,
З хмары павісла імгла.

Вецер, убраушыся у сілы,
Лесам, як вехцем, трасе,
Крыж вырывае з магілы,
Круце салому у страсе.

Хмара, упіушыся морам,
Хвошча і хвошча дажджом,
Плача няьмераным горам,
Жаліць душу, як нажом.

Вецер і хмара да хаты
Просяцца, лезуць смалой:
Вецер дзьме у комін зэузята,
Хмара лье у вокны залой.

У шчылінах сьвіст ня сьціхае,
Муціць, варожыць, кляне,
Як бы жывы хто уздыхае
У сьлезнай пауяве, паусьне.

Мокрыя каплі па шыбах
Плюскаюць, хлюпчуць, бубняць,
Быццам людцоу у сялібах
Мецюць патопай даняць.

—Скуль вы? Што трэба вам госьці,
Звау вас які гаспадар?—
З хаты пытаецца хтосьці
Буйнага ветру і хмар.

—Восень сюды вам за кару
Выгнала нас на папас!—
Гэтакі вецер і хмара
Кідаюць хаце адказ.

І зноу завыу вецер жутка,
Дождж пачау сьцебаць сільней...
А там пад пушчай ціхутка
Моліцца Восень далей.

Зьнізвае пацеры Восень,
Вочы утаропіушы у даль;
Жаль ей павяушых дакосін,
Сьпетых дажынак ей жаль.

**Янка Купала.**

Акопы, 24/VIII 1919 г.

## Політычные навіны.

**Рэйнская рэспубліка.**

ПОЗНАНЬ. 12—IX. Над Рэйнам у Колеініі нядауна з'арганізавауся саюз для пашырэньня ідэі незалежнае Рэйнскае рэспублікі. Вулічные аглашэньні гэтага саюзу забаронены муніцыпальнаю уладаю, места, а французкімі уладамі ізноу дазволены.

**Бэрлінскіе комуністы.**

ПОЗНАНЬ. 12—IX. Нямецкі урад чакае у Бэрліне новых выступленьняу комуністау.

**Барацьба паміж нэграмі і белымі.**

ВАРШАВА. 12—IX. З Вашынгтону паведамляюць, што ізноу пачалася барацьба паміж нэграмі і белымі. У Чыкаго белые спалілі 40 дамоу, дзе жылі нэгры.

## БЕЛАРУСКАЯ КРОНІКА.

**Беларуская Хатка** якая пры бальшавікох была пад загадам Аддзелу Асьветы, перадана Магістратам цяпер пад загад Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

**Т-во працаунікоу беларускага мастацтва** чыніць заходы перад Магістратам, каб адрымаць сталы дазвол на карыстанне Гарадзкім Тэатрам чатыры разы у месяц.

**Ваяводзтвы на Беларусі.** Як піша „Гонец Мінскі“ Польская Улада, занялася апрацоукай праэкту адміністрацыйнага падзелу Беларусі і у зьвязку з гэтым прыпамінае, на якіе ваяводзтвы была падзелена Беларусь да прылучэньня яе да Расіі. У склад Беларусі уваходзілі вояводзтвы:

1. Віленскае (пав. віленскі, ашмянскі, лідзкі, браслаускі і вілкамірскі).

2. Троцкая (пав. троцкі, гарадзенскі, ковенскі і упіцкі).

3. Навагрудзкае (пав. навагрудзкі, слонімскі і ваукавыскі).

4. Берасьцейскае (пав. пінскі і берасьцейскі).

5. Менскае (пав. Менскі, мазырскі і рэчыцкі, а пасьля дзісьненскі, вілейскі і оршанскі).

5. Мсьціслаускае—займало бяз мала усю тэрыторыю пазьнейшае Магілеускае губ.

6 і 7. Полацкае і Вітабскае.

## МЕНСКАЕ ЖЫЦЬЦЕ.

**Выбары мястовые і земскіе,** як нам перадаюць, пачнуцца у пачатку лістапада.

Цяпер робіцца толькі падгатоучые крокі да выбарау на аснове роунага, тайнага, вгульнага і пропорцыянальнага галасаваньня.

Тып цяперашніх магістратау, у тым ліку і менскага—часовы, толькі да канца выбарау.

**Віленская Судэебная Палата,** у чый район увойдзе Менскі акружны суд, адчынена 16-га верасьня.

**Новы коопэратыу.** Гэтымі днямі адчыняецца новы коопэратыу для дактароу. Статут паданы на зацьвярджэньне.

**Пераироблена на касьцел** Халяушчынская, менскага павету (21 верста ад Менску) праваслауная цэркау, бышая да часу Мураусва касьцелам.

**У „Беларускай Хаце“** пачнуцца у хуткім часе беларускіе спэктаклі.

**Аддаюцца пад суд епархіі** пяць папоу за тое, што далі шлюб па бальшавіцкім шлюбаразводным пасьвядчэньням.

**Чорная біржа** спыніла сваю „працу“ пасьля арэшту біржавых спэкулянтау.

Цяпер абмен грашавых знакау і другіе опэрацыі робяцца толькі у банкірскіх або мяняльных канторах па курсу:

20 руб. керэнкамі=3 р. 80 к. царск.

250 руб. думскімі=425 р. керэнкамі.

**У аддзеле харчаваньня** (Падгорная, 14) прадаецца картопля. Цана 6 руб. пуд. Хто хоча, можа зьвярнуцца да сэкрэтара аддзелу у службовые гадзіны.

**Грамадзянская работа** для безработных сьпешна арганізована польскай уладай у сельскіх мясцовасьцях.

**Апал.** Аддзелам апалу у магістраце ад 25-га верасьня пачынаецца прыемка запісау на дровы для насяленьня. Запісвацца можна будзе да 1-га лістапада. Пры запісу трэбуецца задатак у 125 р. ад шуркі. На душу будуць адпускаць ня болей 2-х саж. 1 саж.—1000 руб.



## Допісы.

**БАБРУЙСК.**

Стары, параскіданы ва усе бакі Бабруйск, стаіць, як зауседы на сваім мейсцы, але павярхоуны выгляд яго дае зразумець кожнаму, што яшчэ саусім нядауна тут гаспадарылі нялічаные масы маскоускіх бальшавікоу, наводзячы жуду на душы абывацеляу. Дзе-нядзе прачыняюцца дзьверы крамау і магазынау на глаунай у Бабруйску вуліцы: Беларускай (пры бальшавікох „Социалистической“) Але у гэтых крамах і магазынах пуста. Пуста гэтак сама і на рынку: пяць ці дзесяць гандлярак зялёнівам, задрамаушы, сядзяць кале сваіх шалькау і кошыкау з грушамі і яблыкамі, чакаючы, ці не патрывожаць хто іх спакою. І гэта—усе, што робіцца цяпер на рынку. Прауда, тут разлажыу на белай хустацы з паутара дзесятка яек нейкі селянін, але падступіцца да яго, няма аматарау, бо ен ня хоча прадаваць за грошы, а мяніцца памяняцца на соль. На хлеб і на соль страшэнны спрос, бо, пакуль што, і самаму старадаунаму ба'руйчаніну знайсьці гэтые прадукты першае патрэбы не удаецца ані за якіе грошы. Прыбыушые да нас цывільные улады даклеравалі памагчы гораду у справе харчаваньня, у першую чаргу даушы гэтые найпатрабнейшые у нас прадукты, якіх мы дауно ужо чакаем, як манны з неба.

У Бабруйску заснавауся магістрат, у склад якога запрошаны уладаю па аднаму чалавеку ад кожнае нацыянальнасьці: ад беларусау, палякоу, жыдоу і „русских“. Гарадзкім галавою (бурмістрам) назначаны бабруйскі шляхціц Загорскі. „Русские“ складаюцца з таго бабруйскага павятовага чынавенства, якое займало усялякіе пасады у тутэйшых расійскіх установах і цяпер, спадзяючыся, што сьледам за палякамі зьявіцца сюды Дэнікін, чынавенство гэтае пасьляшыло эмабілізавацца. Аж выйшло крыху іначай, ніж разьмяркоувало няшчаснае мяшчанство: Дэнікіна няма, ды й Бог ведае, ці ен будзе калі тутака, а улада дае пачуць, што от-дзе ня „матушка Россия“. Чыноунічкі смакуюць, што было б нягорш назвацца беларусамі, яны ж тутака радзіліся і яны „тоже белоруссы“. Нейкі бойкі карчмар апераджіу іх і няведама з якіх часау на варотах яго прыбіты вялізарны шыльд: „Заѣзжій дом „Бѣлоруссія“. Па орфографіі відаць, што шыльд гэты сфабрыкованы мусі яшчэ у часы Керанскага.

Так беларусіруецца наш Бабруйск.

*Далекі.*

*Рэдактар-выдавец*
*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*

З дазвал. Цэнзуры.

Друкарня Інвалідау, Менск.